ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ !



# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б






## АБ XV ГАДАВІНЕ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

(Матарыялы для дакладчыкаў)

КАСТРЫЧНІК

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1932

№ 9-10



*Літправка А. Зіміонка*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *Ю. Жыдовіч*
Здана ў друкарню 18/X—32 г.
Падпісана да друку 21/X—32 г.

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

Плян дакладу . . . . . . . . . . 1
Уступ . . . . . . . . . . . . 6
Матэрыялы для дакладаў
I. Кароткая даведка аб экономіцы дарэволюцыйнай Беларусі. Заняпад народнай гаспадаркі ў часе імпэрыялістычнай вайны і окупацыі . . . . . . . . . 14
II. Вызваленьне БССР ад белапалякаў. Устанаўленьне дыктатуры пролетарыяту пры дапамозе пролетарыяту СССР. Сутнасьць і перавагі савецкай сыстэмы народнай гаспадаркі, забясьпечваючыя вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва . . . . . 19
III. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР . . . . . . . . . 21
IV. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР як неадрыўнай часткі СССР да XV гадавіны Кастрычніка ў прамысловасьці. Дапамога пролетарыяту Савецкага саюзу . . 23
V. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі. Рост тэхнічнага яе ўзбраеньня . 32
VI. Уздым матэрыяльнага і культурнага становішча рабочай клясы і шырокіх працоўных мас 35
VII. Посьпехі на фронце культурнага будаўніцтва 37

*(Працяг зьместу на 3-й стар. вокладкі)*

## ПЛЯН ДАКЛАДУ

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

**1. Агульная абстаноўка, у якой мы праводзім XV гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі.** Рост соцыялізму ў СССР і заняпад капіталістычнай сыстэмы. Жорсткі экономічны крызіс, які ахапіў краіны капіталізму.

**2. Становішча Беларусі да Кастрычніцкай рэволюцыі, як колёніі царызму.** Слаба разьвітая прамысловасьць, яе саматужны і паўсаматужны характар. Надзвычай нізкі культурны ўзровень насельніцтва (3/4 няпісьменнага насельніцтва). Засільле памешчыка ў вёсцы. Падвойны ўціск — соцыяльнае і нацыянальнае прыгнечаньне працоўных.

**3. Кастрычніцкая рэволюцыя і грамадзянская вайна.** Разбурэньне народнай гаспадаркі Беларусі імпэрыялістычнай вайной і спадчына,

атрыманая ў гэтай галіне Кастрычніцкай рэволюцыяй. Захоп улады рабочай клясы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Барацьба са зьнешняй і ўнутранай контррэволюцыяй. Нямецкая і белапольская окупацыі.

**4. Пачатак новай экономічнай палітыкі.** Аднаўленьне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

**5. Пэрыод социялістычнай рэконструкцыі:**

а) Перавышэньне даваеннага ўзроўню ў прамысловым разьвіцьці ў 1927—28 гг.

б) Гістарычныя посьпехі ў справе социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Вырашэньне самай цяжкой і складанай задачы пролетарскай рэволюцыі — пераход на шлях колектывізацыі бедпякоў і серадпякоў-аднаасобнікаў.

в) Завяршэньне пабудовы фундаманту социялістычнай экономікі, у выніку чаго ленінскае пытаньне «хто каго» канчаткова вырашана на карысьць социялізму як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

в) Пераход ад політыкі абмежаваньня і выцясьненьня капіталістычных элемэнтаў да політыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.

е) СССР у выніку пасьпяхова праведзенай веснавой пасеўнай кампаніі канчаткова замацаваўся на новым соцыялістычным шляху. Шляхі да аднаўленьня капіталізму ўнутры краіны канчаткова падарваны.

Пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і правадыра партыі і рабочай клясы—т. Сталіна — у жорсткай, непрымірымай барацьбе з клясавым ворагам, яго агентурай у радох партыі — правымі і «левымі» опортуністамі, прымірэнцамі і гнілымі лібэраламі — СССР прышоў да XV гадавіны Кастрычніка з перамогамі сусьветна-гістарычнага значэньня.

**6. Задачы другой пяцігодкі.** Ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул. Ператварэньне усяго працоўнага насельніцтва ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага, соцыялістычнага грамадзтва. Абвастрэньне клясавай ба-

рацьбы на паасобных вучастках у паасобныя пэрыоды ў другой пяцігодцы.

**7. Цяжкасьці росту і іх перамаганьне.** Правільнае разуменьне перажываемых цяжкасьцяй, як цяжкасьцяй нашага росту, якія носяць часовы характар і будуць пераможаны пад кіраўніцтвам нашай партыі.

**8. Рэволюцыянізуючае значэньне СССР, які пасьпяхова будуе соцыялізм на фоне жорсткага крызісу капіталізму.** Наперакор прадраканьням буржуазіі і яе соцыял-фашысцкіх нахлебнікаў, — рабочая кляса сама ўзяла ўладу ў свае рукі, здолела яе нязьмерна ўмацаваць і разьвіць сусьветна-гістарычную работу па гаспадарчым будаўніцтве. Заняпад гаспадаркі і культуры ў Заходняй Беларусі. Соцыяльнае і нацыянальнае прыгнечаньне працоўных.

Наш прыклад — гэта прыклад для ўсіх працоўных Эўропы, Амэрыкі, Кітаю, Індыі, усіх колёній і паўколёній, якія вядуць барацьбу супроць эксплёатацыі і прыгнечаньня.

**9. Чырвоная армія — верны вартавы заваёў Кастрычніцкай рэволюцыі.** Пагроза новай сусьветнай бойні і контррэволюцыйнай інтэрвэнцыі супроць СССР і задачы ўсямернага ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны. Значэньне Асавіяхіму як масавай організацыі ў справе ўзмацненьня абарончай работы і павышэньня падрыхтоўкі працоўных да абароны СССР.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## УСТУП

ДЛЯ ЗАЎВАҐ

Набліжаецца XV гадавіна вялікай пролетарскай рэволюцыі. Пролетарыят, усе працоўныя Савецкага саюзу падагуляць вынікі слаўнай героічнай барацьбы на фронтах грамадзянскай вайны і мірнага соцыялістычнага будаўніцтва. Пятнаццаць год існаваньня дыктатуры пролетарыяту на аднэй шостай частцы сьвету. Пятнаццаць год крывавай і бяскроўнай, упорнай і цярплівай барацьбы і работы рабочай клясы пад кіраўніцтвам выпрабаванай у жорсткіх баёх з царызмам і ўсімі ворагамі працоўных нашай ленінскай партыі бальшавікоў. Пятнаццаць год рабочая кляса ў саюзе з сялянствам вядзе нясупынную работу за лепшае сьветлае будучае для ўсіх абяздоленых і прыгнечаных, для ўсіх эксплёатуемых поразытычным капіталізмам.

Зьмятаючы супраціўленьне клясавых ворагаў, даючы жорсткі адпор правым і «левым» опортуністам, прымірэнцам і гнілым лібэралам, стальная партыя бальшавікоў з нязломнай воляй вяла рабочую клясу ад перамогі да перамогі.

Толькі партыя, створаная і выпеставаная геніем Леніна, змагла павесьці рабочую клясу ў бой да зьвяржэньня капіталізму, за ўладу саветаў. Толькі пад кіраўніцтвам гэтай партыі і лепшага вучня Леніна правадыра ЎсеКП(б) і пролетарыяту ўсяго сьвету — т. Сталіна — Краіна саветаў бярэ адну за аднэй вышыні стварэньня соцыялістычнага грамадзтва, грамадзтва, дзе ня будзе эксплёататараў і эксплёатуемых, дзе ня будзе агіднасьці капіталістычных парадкаў, прыніжаючых чалавека і робячых яго працу бязмэтнай.

Пятнаццаць год існаваньня савецкай улады — дата сапраўды нябачаная ва ўсёй гісторыі барацьбы кляс, барацьбы прыгнечаных і заняволеных супроць сваіх прыгнятальнікаў. Пятнаццаць год, выкінутыя магутнымі хвалямі рэволюцыі за межы сваёй бацькаўшчыны,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

белагвардзейцы разам з імпэрыялістамі ўсіх краін з дня ў дзень прадракаюць гібель бальшавікоў, гібель савецкай улады. Эксплёататары і прыдушальнікі рабочай клясы і працоўнага сялянства — белагвардзейцы і монархісты, Рабушынскія і Мілеры, Ліанозавы і Нобэлі, Мілюковы і Керанскія і іх социялістычныя прыхвасьні, усё яшчэ спадзяюцца на падзеньне пролетарскай дыктатуры, і пад кіраўніцтвам і пры дапамозе некаторых капіталістычных урадаў плятуць сеці змоў імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі супроць Саюзу саветаў. **Але ім ня бачыць падзеньня савецкай улады, як сваіх вушэй. Гісторыя прыгаварыла капіталізм да сьмерці.** Гэта ведаюць рабочыя СССР і ўсяго сьвету і цясьней згуртоўваюць свае рады пад сьцягамі Комінтэрну на абарону сваёй адзінай социялістычнай бацькаўшчыны — СССР.

Пятнаццаць год пладатворна праведзенай работы па ўмацаваньні позыцый социялізму. Мы сьмела заяўляем рабочым і працоўным усіх краін, што социялістычны лад у СССР умацаваўся канчаткова,

**Звароту назад да капіталізму ўжо няма і ня можа быць.** У выніку пятнаццацігадовай барацьбы і пасьпяховага ажыцьцяўленьня першай пяцігодкі ў чатыры гады партыя бальшавікоў на сваёй XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі паставіла гіганцкую задачу, задачу пабудовы ў другой пяцігодцы бясклясавага, соцыялістычнага грамадзтва, і ператварэньня ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў гэтага бясклясавага, соцыялістычнага грамадзтва.

Сьвяткуючы пятнаццатую гадавіну вялікіх перамог, уся партыя, рабочая кляса, колгасьнікі і працоўныя маюць права ганарыцца справай сваіх рук. У той час, як СССР пасьпяхова рухаецца ўперад, капіталістычны сьвет перажывае нябачаны ў гісторыі заняпад, крызіс. У той час, як у СССР будуюцца і пускаюцца ў ход новыя мартэны і домны, фабрыкі і заводы, буйнейшыя ў сьвеце электрастанцыі, (Днепрагэс), у гэты самы час у краінах капіталізму тушацца мартэны і домны, спыняюцца фабрыкі і заводы, мільёны рабочых выкід-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ваюцца на вуліцу і асуджаюцца разам са сваімі сем'ямі — жонкамі і дзецьмі, братамі і сёстрамі—па галодную сьмерць. У той час, як у СССР колгаснае сялянства будуе і ўмацоўвае новую соцыялістычную форму гаспадаркі — колгасы, у гэты самы час бядняцка-серадняцкае сялянства ў краінах капіталізму разараецца, уціскаецца новымі падаткамі ў выгоду ўсемагутнаму молоху — капіталізму. У той час, як уся рабочая кляса, усе працоўныя СССР, у гадавіну пятнаццацігодзьдзя пераможнага Кастрычніка будуць дэмонстраваць свае дасягненьні, магутнасьць сваіх радоў,— у гэты-ж самы час у турмы і засьценкі капіталістычных краін разьюшаныя фашысты кінуць тысячы новых вязьняў — барацьбітоў за пролетарскую справу, дэмонструючых сваю брацкую солідарнасьць з працоўнымі СССР. Але ніякая сіла ў сьвеце ня здолее спыніць рост рэволюцыйнага самасазнаньня рабочых краін капіталізму, прыгнечаных колёній і паўколёній. Набліжаецца канец капіталістычнай сыстэмы. І, ня гледзячы на барбарскі тэрор і прасьледваньні, стаўка ім-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

пэрыялістаў будзе біта. Карыстаючыся вострай зброяй вялікіх настаўнікаў пролетарыяту — тэорыяй Маркса — Энгельса — Леніна— Сталіна, — рабочыя капіталістычных краін прыдуць у жорсткай барацьбе да перамогі пролетарскай рэволюцыі.

Пятнаццаць год — як два сьветы, дзьме сыстэмы разьвіваюцца ў процілеглых кірунках. СССР расьце, мацнее, будуе новае жыцьцё. Капіталістычны сьвет трухлее, прыходзіць да свайго канца. Капіталізм праходзіць свой апошні круг.

Партыя бальшавікоў моцна і тым, што яна ніколі ня скрывала ад рабочых, ад усіх працоўных цяжкасьцяй, якія ўзьнікалі на нашым шляху. Шлях да соцыялізму скрозь не пасыпан кветкамі. Кляса, якая ўзьнялася да сьвядомага творчага жыцьця, ня можа закрываць вачэй на тое, што нам прадстаіць па-бальшавіцку перамагчы цяжкасьці рабочага снабжэньня, нястачы раду тавараў і продуктаў, цяжкасьці, якія зьвязаны з ростам соцыялізму. Тав. Сталін, тлумачачы прыроду нашых цяжкасьцяй, гаварыў, што нашы цяжкасьці ёсьць цяжкасьці ро-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

сту, а не заняпаду, яны носяць часовы характар і будуць ліквідавацца жалезнай воляй партыі, рабочай клясы і ўсіх працоўных. Насуперак нытыкам, людзям, якія гатовы за чачавічную пахлёбку прадаць карэнныя інтарэсы пролетарскай рэволюцыі, — партыя, пролетарыят, усе працоўныя напружваюць свае сілы на сапраўднае ажыцьцяўленьне рашэньняў верасьнёўскага пленуму ЦК УсеКП(б), якія даюць ключ да вырашэньня проблемы колгаснага, савецкага гандлю, разгортваньня вырабу прадметаў шырокага спажываньня і далейшага палепшаньня работы мэталюргіі — гэтай асновы індустрыялізацыі ўсёй краіны.

Пятнаццаць год пролетарыят, усе працоўныя вядуць героічную барацьбу за ўмацаваньне кастрычніцкіх заваёў. Комуністы, комсамольцы і беспартыйныя, выконваючы свой абавязак на ўсіх вучастках мірнай творчай работы, павінны памятаць, што імпэрыялістычныя драпежнікі рыхтуюць новую сусьветную бойню, контррэволюцыйную інтэрвэнцыю супроць Кра-

іны саветаў. **Быць на чаку!** З павялічанай у дзесяць разоў энэргіяй, змагаючыся за вырашэньне вузлавых задач соцыялістычнага будаўніцтва, умацоўваць абароназдольнасьць краіны, — вось абавязак кожнага ўдзельніка вялікай будоўлі. Гэтага патрабуюць карэнныя інтарэсы пролетарскай рэволюцыі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

---

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДАКЛАДУ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**1. Кароткая даведка аб экономіцы да рэволюцыйнай Беларусі Занапад народнай гаспадаркі ў часе імпэрыялістычнай вайны і окупацыі**

У агні Кастрычніцкай рэволюцыі, пры дапамозе пролетарыяту Савецкіх рэспублік, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі бальшавікоў — 15 год таму назад рабочая кляса Беларусі ўзяла ўладу ў свае рукі для пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

Да вайны ў Беларусі амаль зусім ня было буйнай прамысловасьці. На тэрыторыі яе існавала пераважна саматужная прамысловасьць: праўда, сустракаліся больш-менш буйныя прадпрыемствы, але яшчэ ў нязначнай колькасьці.

У 1913 г. улічана 715 адносна буйных прадпрыемстваў, з якіх 319 вінакураных заводаў, з лікам

рабочых 23 тыс. чалавек і прадукцыяй у 47,4 млн. руб.

Колькасьць рабочых да вайны была таксама нязначнай: яна складала 0,57 проц. усяго насельніцтва, між тым, як у даваеннай Расіі гэты процант дасягаў 1,43.

Па сваёй структуры продукцыя прамысловасьці разьмяркоўвалася наступным чынам:

папяровая — 14 проц., дрэваапрацоўчая — 13 проц., харча-смакавая — 40,8 проц., што разам складала 67,8 проц. ад агульнай сумы продукцыі.

З другіх галін значную адносную вагу займалі: тэкстыльная — 7,1 проц., хімічная — 8,7 проц. (запалкі), мэталяапрацоўчая, сылікатная.

На нязначнай вышыні разьвіцьця знаходзілася скураная прамысловасьць — 1,9 проц., вопратка і туалет — 3,8 проц.

Беларусь была пераважна сельскагаспадарчай краінай і прамысловасьць у яе народнай гаспадарцы адыгрывала параўнальна невялікую ролю. Даход ад прамысловасьці ў 1913 г. складаў каля 17 проц., у той час, як у даваеннай Расіі ён

складаў каля 22 проц. Сельская гаспадарка Беларусі ў асноўным мела экстэнсыўны характар з перавагай трохпольля. Да рэволюцыі 45 проц. с.-г. плошчы прыходзілася на долю памешчыцкіх гаспадарак і казны.



За 12 год да вайны з Беларусі ў розныя мясцовасьці былой царскай Расіі, а таксама заграніцу эміґравала каля 900 тыс. чалавек.

Культурны ўзровень падаўляючай большасьці насельніцтва быў таксама вельмі нізкім. Процант няпісьменных у даваенны час складаў 72. Такім чынам, тры чвэрці насельніцтва былі няпісьменнымі [1]).

Такое становішча было створана політыкай царскай улады у адносінах да Беларусі як да колёніі царызму і зьявілася вынікам панаваньня буржуазіі і памешчыкаў. Рабочая кляса і сялянства знаходзіліся пад уціскам самай бязьлітаснай эксплёатацыі з боку пануючых кляс. Політычнае бяспраўе і нацыянальнае прыгнечаньне дапаў-

---

[1]) Даныя перапісу насельніцтва 1897 г., адзінага перапісу царскага ўраду.

нялі агульны малюнак цяжкага эканомічнага становішча працоўнага насельніцтва ў Беларусі.

У часе вайны Беларусь зрабілася пляцдармам ваенных дзеяньняў. Вялікая колькасьць уцекачоў прайшла па тэрыторыі Беларусі на ўсход.

Імпэрыялістычная вайна разрэзала Беларусь на 2 часткі: з аднаго боку знаходзілася нямецкае войска, з другога — рускае. Імпэрыялістычная бойня нанесла вялікія страты і без таго адсталай гаспадарцы Беларусі. Рэквізыцыя жывёлы і коняй для ваенных патрэб, нарэшце, самі ваенныя дзеяньні давялі Беларусь да яшчэ большага заняпаду.

Імпэрыялістычная вайна прывяла Беларусь да нямецкай окупацыі. Перад окупацыяй абсталяваньне больш-менш буйных фабрык, паводле загаду царскай улады, было вывезена ў розныя гарады Расіі. Нямецкія окупанты са свайго боку, імкнуліся вывезьці ўсё каштоўнае, што яшчэ заставалася на Беларусі.

На працягу трох год Беларусь была пляцдармам пачатай капіталі-





стамі і памешчыкамі супроць дыктатуры пролетарыяту грамадзянскай вайны, окупацыі нямецкіх і польскіх імпэрыялістаў, што прывяло да яшчэ большага заняпаду народнай гаспадаркі краіны і без таго моцна зруйнаванай у часе імпэрыялістычнай вайны.

Чорнай хмарай насунулася палоса польскай окупацыі. Ня ўпэўненая ў працяжнасьць белапольскай окупацыі буржуазія прымае ўсе меры, каб вывезьці з рэшты прадпрыемстваў усё, што толькі мела якую-небудзь вартасьць. Фабрыкі і заводы, якія немагчыма было своечасова эвакуяваць, белапольскія окупанты пры адступленьні зусім зьнішчаюць разам з чыгуначнымі станцыямі, мастамі і т. д. З 715 улічаных да вайны прадпрыемстваў звыш 400 было ліквідавана ў выніку пажараў, зруйнаваньня, вывазу абсталяваньня і продажу яго.

Калі Рабоча-сялянская Чырвоная армія, нанёсшы ў 1920 г. руйнуючы ўдар белапольскай арміі, вызваліла сталіцу Беларусі — Менск, яна застала толькі руіны значнай часткі фабрык і заводаў.

## II. Вызваленьне БССР ад белапалякаў. Устанаўленьне дыктатуры пролетарыяту пры дапамозе пролетарыяту СССР. Сутнасьць і перавагі савецкай сыстэмы народнай гаспадаркі, забясьпечваючыя вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Перад рабочай клясай Беларусі, разам з працоўным сялянствам, пры дапамозе РСЧА і пад кіраўніцтвам партыі, канчаткова перамогшай у грамадзянскай вайне і вызваліўшай краіну, — стаяла цяжкая задача разгорнутага аднаўленьня народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва рэспублікі.

Поўная перамога ў грамадзянскай вайне, узмацненьне дыктатуры пролетарыяту ў форме савецкай улады, экспропрыяцыя экспропрыятараў, нацыяналізацыя фабрык і заводаў, транспорту, банкаў, нацыяналізацыя зямлі, рашучае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, разгортваньне культурнага будаўніцтва, «культуры нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу», — забясьпечылі нячуваны рост народнай гаспадаркі і культуры БССР.

Што такое савецкая сыстэма гаспадаркі? Савецкая сыстэма гаспадаркі азначае, што:

1) улада клясы капіталістаў зьвергнута і заменена ўладай рабочай клясы;

2) прылады і сродкі вытворчасьці — зямля, фабрыкі, заводы і да т. п. — адабраны ў капіталістаў і перададзены ва ўласнасьць рабочай клясе і працоўнага сялянства;

3) разьвіцьцё вытворчасьці падпарадкавана ня прынцыпу конкурэнцыі і забясьпечаньню капіталістычнага прыбытку, а прынцыпу плянавага кіраўніцтва і сыстэматычнаму ўздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных;

4) разьмеркаваньне народнага прыбытку, якое вытвараецца не ў інтарэсах абагачэньня эксплёататарскіх кляс і іх шматлікавай паразытычнай чэлядзі, а ў інтарэсах сыстэматычнага падвышэньня матэрыяльнага становішча рабочых і сялян і пашырэньня соцыялістычнай вытворчасьці ў горадзе і на вёсцы, сыстэматычнага палепшаньня матэрыяльнага становішча працоўных і нясупыннага росту іх патрэб (пакупальнай здольнасьці), будучы пастаянна ўзрастаючай крыніцай пашырэньня вытворчасьці, —

гарантуюць рабочую клясу ад крызісаў вытворчасьці і росту беспрацоўя і да т. п.;

5) «рабочая кляса зьяўляецца гаспадаром краіны, працуючы не на капіталіста, а на сваю ўласную клясу» (Сталін).



### III. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР

Перавагі плянавай савецкай сыстэмы гаспадаркі забясьпечылі нячуваны рост Савецкага саюзу, вялізарныя посьпехі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, з якімі пролетарыят падыходзіць да XV гадавіны Кастрычніка.

У той час, як бязупыннае разгортваньне сусьветнага экономічнага крызісу азначае канец капіталістычнай стабілізацыі і пераход да буйных сутычак паміж клясамі і дзяржавамі, да новых рэволюцый і войн, — СССР, стоячы на варце міру, дасягнуў, ня гледзячы на цяжкасьці, вялізарных посьпехаў у справе індустрыялізацыі і соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, што забясьпечыла пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі і канчатковае зама-

цаваньне СССР на соцыялістычным шляху.

Ужо ў асноўным утворана моцная тэхнічная база для завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. У паасобных галінах СССР вышаў на першыя месцы ў сьвеце па выпуску продукцыі, што зьяўляецца вынікам пасьпяховага завяршэньня першай пяцігодкі ў чатыры гады і стварае прадпасылкі для пабудовы соцыялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы, тым больш, што ў першай пяцігодцы адным з важнейшых вынікаў яе зьяўляецца канчатковы падрыў карэньняў капіталізму, на вёсцы і ліквідацыя, у асноўным, паразытычных кляс.

Ленінскае пытаньне «хто каго» вырашана на карысьць соцыялізму.

Гэтыя посьпехі на ўсіх рашаючых вучастках будаўніцтва соцыялізму сталі магчымы толькі ў выніку непрымірымай барацьбы ўсёй партыі з усялякімі праявамі опортунізму, лявацкімі элемэнтамі, асабліва з правым ухілам, адлюстроўваючым супраціўленьне рэштак ліквідуемых капіталістычных кляс у нашай краіне.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## IV. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР як неадрыўнай часткі СССР да XV гадавіны Кастрычніка, у прамысловасьці. Дапамога пролетарыяту Савецкага саюзу

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Разам з усім СССР, БССР — у мінулым вякамі прыгнечаная царызмам краіна занятпалай сельскай гаспадаркі, дробнай прамысловасьці, эміграцыі — ператвараецца пад кіраўніцтвам КП(б)Б і пры дапамозе пролетарыяту СССР у краіну індустрыяльна-аграрную, якая зьліквідавала беспрацоўе і падыходзіць з вялізарнейшымі посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва да XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі.

Разам з усім Савецкім саюзам БССР завяршыла ў мінулым годзе пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі, нячувана разгарнула прамысловасьць, перабудоўваючы на соцыялістычны лад сельскую гаспадарку, значна палепшыла матэрыяльнае і культурнае становішча рабочай клясы.

Паводле даных ВСНГ БССР (тады БССР складалася з 6 паветаў былой Менскай губэрні) да ліпеня м-ца 1921 г. агульная колькасьць

прадпрыемстваў, нацыяналізаваных і ўзятых на вучот ВСНГ, дасягае 22, а агульная колькасьць рабочых на ўсіх прадпрыемствах — каля 6 тыс. чалавек. Значная частка гэтых прадпрыемстваў таксама не працавала. У сярэднім на кожнае працуючае прадпрыемства прыходзілася 20—30 рабочых.

З ліку прадпрыемстваў, якія кіраваліся ВСНГ у 1921 г., неабходна адзначыць прадпрыемствы шкляной вытворчасьці, з якіх да жніўня 1921 г. працаваў толькі адзін Глушанскі завод («Комінтэрн»). У жніўні пачынае працаваць шкляны завод у Барысаве (цяпер завод імя Домбаля), які выпрацоўваў шклянкі, лямпавае шкло, гаспадарчую пасудзіну і інш. З запалкавых фабрык працавалі: «Вулькан» — у гор. Менску і «Бярэзіна» ў Барысаве, з агульнай колькасьцю рабочых каля 500 чал. Продукцыя іх была вельмі нязначная. У справаздачы ВСНГБ III Усебеларускаму зьезду саветаў указваецца, што «запалкавая прамысловасьць Беларусі да верасьня 1921 г., г. зн. за 8 месяцаў работы дала звыш 17 тыс. скрынак запалак». Гэта адзначаец-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ца, як вялікае дасягненьне ў запалкавай прамысловасьці.

Папера выпрацоўвалася толькі на аднэй фабрыцы «Папірус» — у даны момант — «Профінтэрн» — у Барысаве, якая пачала дзейнічаць у пачатку 1921 г. Як дасягненьне прыводзяцца лічбы выпрацоўкі гэтай фабрыкі ў першай палавіне верасьня 1921 г. — 615 пуд. (10 т) продукцыі паперы белай і ўпаковачнай розных колераў.

Харча-смакавая прамысловасьць, падпарадкаваная ВСНГ, налічвала 17 прадпрыемстваў, з якіх 12 працавала і 5 не працавала. На іх было занята 350 рабочых. Скураная прамысловасьць прадстаўляла рад старых заводаў з нязначнай колькасьцю рабочых. Агульная продукцыя ўсіх скураных заводаў была невялікай. За 8 мес. 1921 г. было выпушчана 19 113 штук скур, прычым значная колькасьць — каля палавіны — мастаўя, каля 1/4 паўвала, падашвы і інш. На працягу гэтага самага часу абутковая прамысловасьць выпрацавала 14,5 тыс. пар абутку, прычым значная частка (каля 7 тыс. шт.) прыходзіцца на абутак для арміі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Табліца № 1.

**Агуловая продукцыя запалкавай, скуранай і абутковай прамысловасьці (у натур. выражэньні)**

| Галіны прамысловасьці | Адзінка вучоту | 8 месяцаў | | Проц. росту |
|---|---|---|---|---|
| | | 1921 г. | 1932 г. | |
| Запалкавая . . . | Тыс. скрын. | 17,0 | 513,6 | +3021 |
| Скураная (скуры). . | „ штук | 19,1 | 1025,8 | +5370 |
| Абутковая . . . | „ пар | 14,5 | 677,2 | +4670 |

Увага. Зьвесткі за 1921 г. даны на тэрыторыі б. Меншчыны, а за 1932 г. па фабрыцы „Пролетарская перамога" (запалкавая), Менскім скур. заводзе „Бальшавік" і абутковай ф-цы, якія зьяўляюцца буйнейшымі прадпрыемствамі на тэрыторыі б. Меншчыны.

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

Швэйных прадпрыемстваў на тэрыторыі 6 паветаў былой Менскай губэрні ў 1921 г. было 5. У жніўні м-цы 1921 г. швэйная прамысловасьць на 5-ці прадпрыемствах налічвала 546 рабочых з 347 машынамі.

Мэталяпрамысловасьць, згодна даных тэй-жа справаздачы ВСНГБ III Усебалрускаму зьезду саветаў, мела амаль выключна рамонтны характар. У студзені м-цы ў Менску было 2 абозна-рамонтныя майстэрні, адна бляшана-сьлясарная і адна ліцейная. Тры прадпрыемствы было ў Барысаве, адна майстэрня — ў Бабруйску, невялікая майстэрня с.-г. машын — у Слуцку і ліцейная — ў Мозыры. Апроч гэтых прадпрыемстваў, у Менску было яшчэ два заводы «Мэталь» і «Энэргія». У маі 1921 г. агульная колькасьць рабочых, занятых на мэталяпрадпрыемствах, дасягае 381 чал.

Па дрэваапрацоўчай прамысловасьці Беларусі ўзята на вучот і нацыяналізавана 70 лесазаводаў з агульнай колькасьцю 1 190 рабочых, у маі м-цы 1921 г. працавала менш аднэй трэці прадпрыем-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ствау—21 прадпрыемства з 964 рабочых.

Прыведзеныя даныя характарызуюць становішча прамысловасьці Беларусі ў 1921 г. (Меншчына) і даюць малюнак тэй страшэннай адсталасьці, на якой знаходзілася прамысловасьць Беларусі ў пачатку аднаўленчага пэрыоду.

З тым больш яскравай нагляднасьцю відаць буйнейшыя дасягненьні, якія мае рабочая кляса за пэрыод савецкай ўлады ў БССР у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Аднаўленчы пэрыод беларускай прамысловасьці скончыўся ў 1927—28 г. Да гэтага-ж пэрыоду трэба аднесьці і сканчэньне аб'яднаньня прамысловасьці за лік далучэньня да тэрыторыі БССР спачатку Віцебшчыны, часткова Смаленшчыны і Магілеўшчыны, а потым Гомельшчыны.

Са сканчэньнем аднаўленчага пэрыоду ў прамысловасьці БССР разгарнулася шырокая рэконструкцыя. Нясупынна з году ў год растуць капіталаўкладаньні ў прамысловасьць БССР.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**Дынаміка капіталаўкладаньняў прамысловасьці**

| Гады | у млн. руб. |
|---|---|
| 1925--26 | 5,3 |
| 1926—27 | 10,8 |
| 1927—28 | 17,2 |
| 1928—29 | 27,3 |
| 1929—30 | 45,7 |
| Асобны квартал | |
| 1930 г. | 13,7 |
| 1931 г. | 67,2 |

У гэты-ж пэрыод у капіталаўкладаньнях няўхільна падвышаецца адносная вага сродкаў, якія накіроўваюцца на новае прамысловае будаўніцтва фабрык і заводаў. За апошнія гады ў БССР пушчан у ход рад новых буйнейшых прадпрыемстваў: на Асінаўскім тарфяным балоце пушчана Асінаўская раённая электрастанцыя; у Магілеве пабудавана ф-ка штучнага валакна; занова пабудован завод «Бальшавік», мастаўёвы завод у Магілеве, у Менску і Віцебску швэй-

ныя фабрыкі; пабудавана панчошна-трыкатажная ф-ка ў Віцебску. У працэсе сканчэньня знаходзіцца Крычаўскі цэмантны завод і Гомельскі шкляны мэханізаваны завод. У Воршы пабудавана ільначасальная фабрыка і мясны комбінат. У Гомелі завод с.-г. машынабудаўніцтва, у Менску кондытэрская фабрыка і шмат іншых.

Раней існаваўшыя прадпрыемствы падвергліся настолькі значнай рэконструкцыі, што яны рэзка зьмянілі твар і вытворчую магутнасьць заводаў. (Завод імя Варашылава ў Менску, «Комунар», мэталязавод «Чырвоны мэталіст» — у Віцебску, Добруская фабрыка «Герой працы» і інш.). Як рабочыя кажуць, каля брамы былога заводу адбудавалі новыя вялікія прадпрыемствы.

**Занова разгорнута тарфяная прамысловасьць, як па здабычы торфу, так і па яго пераапрацоўцы.**

У выніку разгорнутага капітальнага будаўніцтва ў прамысловасьці асноўныя фонды на першае студзеня 1931 г. моцна ўзрасьлі і складаюць: па групе «а» — 87 млн.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

122,9 тыс. руб. і па групе «б» — 64 млн. 033,6 тыс. руб.



Такім чынам, дзякуючы палітыцы, накіраванай на індустрыялізацыю БССР, большая частка асноўных фондаў прыходзіцца на групу «а».

Нясупынна з году ў год, дзякуючы савецкай сыстэме гаспадаркі расьце і продукцыя прамысловасьці. У 1931 г. узровень выпуску продукцыі рэспубліканскай прамысловасьці 4-х наркоматаў узьняўся да 510 млн. 906 тыс. руб., што дае прырост ў параўнаньні з 1927—28 г. на 431,8 проц.

У выніку разгорнутага выпуску продукцыі прамысловасьці, разьвіцьця яе новых галін, пуску новых фабрык і заводаў, рашучай барацьбы за вызваленьне ад эканамічнай залежнасьці ад капіталістычных дзяржаў — значна пашырыўся асортымэнт фабрык і заводаў Беларусі.

Рад заводаў і фабрык выпускаюць продукцыю, якая раней наогул не выпрацоўвалася ў БССР. Асабліва рашуча зьмяніўся асортымэнт мэталяпрамысловасьці. Цяпер мэ-

талёвыя заводы Беларусі выпускаюць: зямлярэзкі, сіласарэзкі, бульбасартыроўкі, бульбамыйкі, бульбакапальнікі, камнядрабілкі, карнярэзкі, раствораняшалкі, гравіясартыроўкі і рад новых машын па агульным машынабудаўніцтве, якія раней увозіліся з-за граніцы.

Занова разьвілася фосфарытная прамысловасьць і моцна пашыран асортымэнт будматэрыялаў.

### V. Социялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі, Рост тэхнічнага яе ўзбраеньня

Сельская гаспадарка Беларусі разьвівалася ў кірунку соцыялістычнай рэконструкцыі. Колькасьць саўгасаў і іх пасеўная плошча павялічвалася з году ў год: так, у 1931 г. першыя дасягнулі лічбы 358, а пасеўная плошча складала 115 472 **га.** У гэтым-жа годзе колькасьць трактараў у саўгасах узрасла да 628. Надзвычай павялічваліся і асноўныя фонды ў саўгасах, дзякуючы няўхільнаму росту капіталаўкладаньняў на працягу пяцігодкі (1931 г. 1/I — 22 млн. 111,5 тыс. р., 1932 г. — 41 млн. 093,6 тыс. руб.).



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Паварот асноўнай масы сялянства на соцыялістычны шлях знаходзіць сваё адлюстраваньне ў росьце колькасьці колгасаў, колектывізаваных гаспадарак, а таксама іх пасеўнай плошчы. Колькасьць колгасаў у пачатку 1932 г. дасягнула вялізарнай лічбы — звыш 9 тыс., а колькасьць колектывізаваных гаспадарак — 46 проц.

Папярэднія ітогавыя даныя аб пасеўных плошчах у 1931 г. даюць наступнае разьмеркаваньне агульнай пасеўнай плошчы ў 3 548 857 **га:** саўгасы — 202 326, колгасы — 1 609 644, аднаасобнікі — 1 736 887 **га.**

Такім чынам, большая палова (202 326 + 1 609 644) усёй пасеўнай плошчы прыходзіцца на соцыялістычны сэктар.

Аб'яднаньне сродкаў вытворчасьці ў колгасах стварыла моцную базу для разгортваньня сельскай гаспадаркі і яе далейшай тэхнічнай рэконструкцыі і спэцыялізацыі. Апроч таго, вялізарную ролю адыграла організацыя МТС, колькасьць якіх на 1/VI 1932 г. складае 59 станцый з 1 453 трактарамі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

БССР становіцца краінай мэханізаванай сельскай гаспадаркі. У выніку павароту асноўнай масы бядняцка-серадняцкага сялянства на соцыялістычны шлях, росту соцыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы і яе тэхнічнага пераўзбраеньня — БССР дасягнула посьпехаў у расшырэньні пасеўнай плошчы і няўхільна замацоўваецца на шляху сельскагаспадарчай спэцыялізацыі, падвышаючы з году ў год плошчу пасеваў пад тэхнічнымі культурамі.

Так, пасеўная плошча пад ільном складала ў 1932 г. — 266 916 **га** супроць 238 942 **га** ў 1931 г. Па сэктарох плошча ў 1932 г. разьвіваецца наступным чынам:

саўгасы — 2 629 **га** (1 995 **га** — у 1931 г.); колгасы — 156 157 **га** (126 259 **га** — у 1931 г.) і аднаасобнікі — 108 130 **га** (122 276 **га** — у 1931 г.).

Соцыялістычны сэктар, асабліва саўгасы, мае рад дасягненьняў па ўздыму ўраджайнасьці. Так, сярэдні фактычны ўраджай за 1928—31 г. складае па ўсёй БССР па зерневых 7,1 **ц**, па саўгасах-жа 9,4 **ц** і па колгасах—7,8 **ц**.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Стада жывёлы, паводле перапісу 1932 г., па сваёй адноснай вазе разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | У процантах да ўсяго стада | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Саўгасы | Колгасы | Колгасьнікі | Аднаасобнікі |
| Коні | 2,3 | 42,5 | 1,1 | 51,4 |
| Буйная рагатая жывёла | 4,1 | 27,1 | 22,6 | 45,4 |
| Сьвіньні | 5,5 | 9,6 | 34,8 | 48,4 |
| Авечкі | — | 7,2 | 37,3 | 55 |

У адносінах сьвіней БССР займае адно з першых месц у сьвеце. На 100 душ насельніцтва прыходзіцца 32 сьвіньні.

### VI. Уздым матэрыяльнага і культурнага становішча робочай клясы і шырокіх працоўных мас

Нячуваны ўздым прамысловасьці, соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі, няўхільны рост асноўных паказчыкаў соцыялістычнага будаўніцтва зьявіліся глебай для рашучага палепшаньня становішча рабочай клясы і шырокіх працоўных мас і расшырэньня пролетарскай базы.

Колькасьць рабочых саюзнай і рэспубліканскай прамысловасьці БССР у 1931 г. дасягнула 68 732 чал. **Поўнасьцю зьліквідавана беспрацоўе** і наёмны пэрсонал у 1931 г. складаў 480 тыс. чалавек, у тым ліку ў прамысловасьці (уся) — 104 тыс., будаўніцтве — 96,5 тыс. чал., асьвеце—40 тыс. чал., сельскай гаспадарцы—86,1 тыс. Колькасьць і адносная вага жанчын асабліва павялічылася ў прамысловасьці.

Нясупынна з году ў год павялічвалася і зарплата рабочых і наёмнага пэрсоналу. Толькі за гады пяцігодкі зарплата ўсяго наёмнага пэрсоналу павялічылася ў 1931 г. на 65,8 супроць 1927 — 28 г. У прамысловасьці зарплата ў 1931 г. перавышана супроць меркаваньняў апошняга году пяцігодкі на 10,2 проц.

Адным з важнейшых момантаў для ацэнкі становішча рабочай клясы зьяўляецца рост становых паказчыкаў соцстраху.

У 1931 г. асноўныя галіны прамысловасьці пераведзены на 7-гадзінны працоўны дзень. Асаблівым паказчыкам палепшаньня стано-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вішча рабочай клясы зьяўляецца павялічэньне жыльлёвага фонду— з 5 257 885 **кв. м** у 1928 г. да 5 721 219 **кв. м** у 1932 г. Новае жыльлёвае будаўніцтва ў гарадох БССР з кожным годам павялічваецца: супроць 40 900 **кв. м** у 1923 г., у 1931 г. асвоена 149 895 **кв. м.** Рост новага жыльлёвага будаўніцтва ідзе па ўзрастаючай крывой з году ў год.

У 1931 г. пяцігодка перавыканана па раду паказчыкаў аховы здароўя: павялічылася колькасьць коек, колькасьць мэдпэрсоналу, значна ўзрасла сетка санітарна-профіляктычных установ. Насельніцтва БССР нясупынна ўзрастае. Сьмяротнасьць зьмяншаецца. Калі ў 1910 г. на тысячу чалавек памірала ў сярэднім 21,1 чал., дык у 1928 г. гэтая лічба зьнізілася да 14,2, у 1931 г.—да 12,2. Асабліва зьнізілася дзіцячая сьмяротнасьць (ва ўзросьце да аднаго году)— з 195 дзяцей на тысячу ў 1910 г. да 95 у 1928 і 82,4—у 1931 г.

### VII. Посьпехі на фронце культурнага будаўніцтва

Вялізарныя дасягненьні мае БССР у справе народнай асьветы. Над-

звычай адсталая да рэволюцыі ў культурных адносінах БССР да XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі **падыходзіць з выключнымі посьпехамі ў справе культурнага будаўніцтва.** Шырока разгарнулася сетка школьных устаноў і колькасьць вучняў у іх. Калі ў 1914 г. ў ніжэйшых школах было 273 997 чал., дык у канцы 1931 г. у школах-чатырохгодках і першым концэнтры сямігодак налічваецца 658 400 чал. У сярэдніх школах у 1914—15 г. налічвалася 21 047 чал., у 1931 г. навучалася 109 500 чал. толькі ў школах другога концэнтру, ня лічачы тэхнікумаў. БССР — першая рэспубліка, якая ўвяла ўсеагульнае навучаньне.

Вялікая праца праароблена і ў адносінах ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці. У 1931 г. у школах малапісьменных і лікпунктах навучалася 466 656 чал.

Калі да рэволюцыі ў выніку нацыянальнага прыгнечаньня ня было ніводнай беларускай школы, дык дзякуючы заваёвам Кастрычніцкай рэволюцыі працоўнае насельніцтва БССР мае школы, у якіх

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**праводзіцца навучаньне як на чатырох дзяржаўных мовах (беларускай, яўрэйскай, польскай, рускай), так і на мовах нацыянальных меншасьцяй (латыскай, літоўскай, украінскай, нямецкай, эстонскай).**

Да рэволюцыі ў БССР ня было вышэйшых навучальных установ. У канцы 1931 г. колькасьць ВНУ складае 28, у тым ліку: індустрыяльных—6, сельскагаспадарчых—8, соцыяльна-экономічных—4, пэдагогічных—5, мэдыцынскіх—1, мастацкіх — 2, унівэрсытэтаў — 1. Агульная колькасьць студэнтаў ў ВНУ складала ў канцы 1931 г.— 9 тыс. чал.

Апрача таго, шырока разгарнулася сетка тэхнікумаў. У 1914—15 г. школ ніжэйшай і сярэдняй профэсіянальнай адукацыі на тэрыторыі сучаснай Беларусі налічвалася 15, а ў 1931 г. колькасьць тэхнікумаў складае 93 і навучаецца ў іх 19 503 чал. Школ ФЗВ налічваецца 117, а ў іх вучыцца—16 173 чал. У 1930—31 г. БССР налічвала дамоў соцкультуры 663, дамоў колгасьнікаў і нардамоў—102, клюбаў і дамоў асьветы—206, бібліотэк—931, музэяў—7, тэатраў—11.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Надзвычай шырока разгарнулася выдавецкая справа ў БССР як на дзяржаўных мовах, так і на мовах нацыянальных меншасьцяй. У 1931 г. колькасьць назваў па кніжнай продукцыі складала 1°474. Газэт у 1931 г. у БССР выдавалася 182, часопісаў—30.

Прыведзеныя кароткія лічбы ясна гаворацць аб тых вялізарнейшых дасягненьнях, якія мае БССР у культурным будаўніцтве, стварэньні культуры «нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьмесьце», а таксама ў справе падрыхтоўкі кадраў для народнай гаспадаркі і далейшага культурнага будаўніцтва.

### VIII. Выкананьне і перавыкананьне пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва БССР у 4 гады. Вялізарны ўздым працоўнага энтузіязму. Соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва

Выключныя посьпехі мае БССР у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Пяцігадовы плян за тры гады і асобы квартал выканан па капіталаўкладаньні на 69 проц. Агуловая продукцыя прамысловасьці ў 1931 г. дала прырост у адносінах да 1927—

28 г.—431,8 проц. або дасягнула 90,6 проц. узроўню, запроектаванага для апошняга году пяцігодкі.

За тры гады і асобы квартал рад галін прамысловасьці перавыканалі пяцігодку па выпуску продукцыі (тарфяная, мэталяапрацоўчая, дрэваапрацоўчая, скураная і абутковая, швэйная, запалкавая і інш.). За 39 месяцаў пяцігадовы плян па колькасьці рабочых у прамысловасьці амаль выканан. Па колькасьці ўсяго наёмнага пэрсоналу пяцігодка ў БССР перавыканана ў 1931 г. на 39 проц.

Зарплата рабочых і наёмнага пэрсоналу ў 1931 г. як у прамысловасьці, так і ў цэлым перавышае намёткі апошняга году пяцігодкі.

У сельскай гаспадарцы мы маем нясупынны рост пасеўных плошчаў. За гады пяцігодкі пасеўная плошча ўзрасла з 3 317 628 **га** у 1927 г. да 3 548 857 **га**—у 1932 г. (2 389 426 **га**—у 1916 г.). Плян колектывізацыі значна перавыканан. Агульная плошча саўгасаў і колгасаў складае больш палавіны ўсёй пасеўнай плошчы. Значна ўзрасла колькасьць жывёлы ў соцыялістычным сэктары.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Табліца № 3.

**Жывёла ў колгасах**

| | 1928 г. | 1932 г. |
|---|---|---|
| Рабочыя коні . . . . | 3 776 галоў | 291 400 галоў |
| Уся рагатая жывёла. . | 12 466 „ | 392 600 „ |
| Авечкі . . . . . . | 6 818 „ | 121 900 „ |
| Сьвіньні . . . . . | 3 072 „ | 136 400 „ |

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

У адносінах культурнага будаўніцтва і аховы здароўя, рад асноўных паказчыкаў перавыканан у 1931 г. Асабліва паказальныя і ў гэтых адносінах зьяўляюцца посьпехі, якія дасягнуты органамі соцстрахаваньня.

Выкананьне і перавыкананьне пяцігодкі цясьнейшым чынам зьвязана з надзвычайным ростам актыўнасьці рабочай клясы, што выявілася ў соцспаборніцтве і ўдарніцтве. Падтрымліваючы цалкам генэральную лінію партыі, накіраваную на індустрыялізацыю нашай краіны, на соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, на дасягненьне магутных тэмпаў ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве, рабочая кляса на вароньняе карканьне правых і «левых» ухілістаў, ныткаў і пэсымістаў, усіх тых, хто цягне да капіталістычнай рэстаўрацыі, адказала вялізарным уздымам працоўнага энтузіязму, дысцыплінаванасьці, актыўнасьці, абвяргаючы на практыцы ў корані памылковыя «тэорэтычныя» разважаньні ўхілістаў.

Соцспаборніцтва разгарнулася надзвычай шырока, і ў даны час

ахоплівае каля $^2/_3$ рабочых на прадпрыемствах. Разам з тым растуць і ахопліваюць значную колькасьць рабочых гаспадарча-разьліковыя брыгады. Значна падвысілася дысцыплінаванасьць і ўзрасла продукцыйнасьць працы.



Узрастаючая хваля вытворчага ўздыму і працоўнага энтузіязму пролетарыяту зьяўляецца тым «мерным крокам жалезных батальёнаў пролетарыяту», які ідзе з новымі мэтодамі сапраўднай комуністычнай працы, які гарантуе канчатковую пабудову соцыялізму. «Самае дзіўнае ў соцспаборніцтве ў тым, што яно выклікае карэнны паварот у поглядах людзей на працу, бо яно ператварае працу з зазорнага і цяжкага ярма, якім яна лічылася раней, у справу гонару, справу славы, мужнасьці і геройства» (Сталін).

### IX. Ленінскае вырашэньне нацынальнага пытаньня ў БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б

Для БССР вялізарнае значэньне мае вырашэньне нацыянальнай проблемы. Вырашыць нацыянальную проблему можа толькі проле-

тарыят і толькі пасьля заваёвы ўлады.

Ажыцьцяўленьне нацыянальнай політыкі магчыма толькі пры ўмове пасьлядоўнай і непрымірымай барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам, мясцовым беларускім шовінізмам і шовінізмамі іншых нацыянальнасьцяй, насяляючых БССР, бо кожны шовінізм ёсьць адбітак буржуазнай кулацкай ідэолёгіі.

Галоўную небясьпеку прадстаўляе ўхіл у бок вялікадзяржаўнага шовінізму, які заключаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры, быту, у імкненьні падрыхтаваць «ліквідацыю нацыянальных рэспублік, імкненьні падарваць прынцып нацыянальнай роўнасьці і разьвянчаць політыку партыі па нацыяналізацыі апарату, прэсы, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый» (Сталін — XVI зьезд УсеКП(б).

«Сутнасьць ухілаў да мясцовага нацыяналізму—у імкненьні адасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, у

імкненьні знайсьці абарону ад вялікадзяржаўнага шовінізму шляхам адыходу ад агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьбліжае і аб'ядноўвае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР, а бачыць толькі тое, што можа іх адасобіць адно ад другога» (Сталін).

Рашучай барацьбой на два франты супроць ухілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму як галоўнай небясьпекі, супроць беларускага нацыянал-опортунізму і нацыянал-дэмократызму, а таксама супроць мясцовых шовінізмаў, правядзеньнем правільнай ленінскай нацыянальнай політыкі КП(б)Б забясьпечыла выключныя посьпехі на фронце культурнага будаўніцтва і беларусізацыі.

У разьдзеле культурнага будаўніцтва мы ўжо паказалі на вялікія дасягненьні ў росьце культурных устаноў нацыянальнасьцяй, насяляючых БССР. Гэта зьяўляецца вынікам правільнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі нашай партыі.

Царызм нацкоўваў нацыі адну на другую, сеяў шовінізм, варожасьць

паміж працоўнымі розных нацыянальнасьцяй. Такую спадчыну нацыянальнай варожасьці і недавер'я атрымала Кастрычніцкая рэвалюцыя. За мінулыя 15 год ідэя пролетарскага інтэрнацыяналізму шырока пранікла ў масы, у выніку чаго наша партыя, кіруючыся ўказаньнямі Леніна і Сталіна, забясьпечыла цеснае супрацоўніцтва працоўных усіх нацыянальнасьцяй у барацьбе за соцыялістычнае грамадзтва.

Ленінская нацыянальная палітыка нашай партыі праводзілася ў жорсткай барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам і шовінізмамі іншых нацыянальнасьцяй.

Усе дасягненьні, якія мы маем у галіне нацыянальнай палітыкі: нацыянальная школа, газэта, літаратура, тэатр (на мовах беларускай, польскай, яўрэйскай і інш.), беларусізацыя і карэнізацыя партыйнага, савецкага, профсаюзнага, гаспадарчага і інш. апаратаў, правядзеньне масавай палітыка-выха-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ваўчай работы на розных нацыянальных мовах, організацыя нацыянальных колгасаў (польскіх, яўрэйскіх, латыскіх), сельсаветаў і польскага нацыянальнага Дзяржынскага раёну (былы Койданаўскі), вялізарны рост кадраў, кіруючых рознымі галінамі соцыялістычнага будаўніцтва з працоўных раней прыгнечаных нацый,—усё гэта наша партыя заваявала ў непрымірымай барацьбе за чыстату сваёй генэральнай лініі.

Разгром беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, гэтай агентуры капіталістычных інтэрвэнтаў, нацыянал-опортунізму ў радох партыі, вялікая работа па выкрыцьці дробнабуржуазнай сутнасьці Беларускай соцыялістычнай грамады і Бунду,—усё гэта было немагчыма без пасьлядоўнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі, на грунце якой працоўныя БССР да XV гадавіны Кастрычніка дасягнулі нячуваных посьпехаў у справе аб'яднаньня працоўных усіх нацыянальнасьцяй пад сьцягам нашай бальшавіцкай партыі.

У той час, як БССР да XV гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі падыходзіць з вялізарнейшымі посьпехамі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва народнай гаспадаркі і культуры, у Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад уладай польскага фашызму, пануе жорсткі экономічны крызіс, жабрацтва і галеча шырокіх працоўных мас, нячуванае політычнае і нацыянальнае прыгнечаньне.

У сувязі з экономічным крызісам скарачаецца вытворчасьць, спыняюцца і закрываюцца фабрыкі і заводы—тысячы рабочых астаюцца беспрацоўнымі, галадаюць.

Голад пануе і на вёсцы. У 1932 г. для засеву яравога кліну не хапіла насеньня. Увесну гэтага году ў Заходняй Беларусі галадоўля набыла настолькі пагражаючы характар, што ні офіцыйныя органы друку, ні самі ўрадавыя органы ня здолелі яго замаўчаць, яны прымушаны былі заняцца гэтай справай, зразумела, бяз значных вынікаў.

Надзвычай цяжкае політычнае і нацыянальнае прыгнечаньне пера-

жываюць рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі. Рэвалюцыйныя арганізацыі рабочых і сялян ня маюць права на існаваньне і загнаны ў падпольле. Жорсткімі прысудамі распраўляецца польскі фашызм з рэвалюцыйнымі арганізацыямі, катаргай і турмамі прыходзіцца расплачвацца барацьбітам за справу рабочай клясы.

Польскі фашызм ліквідуе беларускія школы, беларускія культурныя арганізацыі, усімі мерамі распраўляецца з нацыянальным рухам.

Агіднейшую ролю адыгрываюць беларускія нацыянал-фашысты: Луцкевіч і інш. Прадаўшы дэфэнзыве Беларускую рабоча-сялянскую грамату, удзельнічаючы ў разгроме і здрадніцтве рэвалюцыйных арганізацый, беларускія нацыянал-фашысты зрасьліся з дэфэнзывай, зьяўляюцца яе сталымі супрацоўнікамі.

Героічную працу вядзе ў Заходняй Беларусі і правадыр рабочай клясы і сялянства—КПЗБ.

Загнаная ў падпольле КПЗБ кіруе рэвалюцыйным рухам, стаіць на чале рабочай клясы і сялянства ў барацьбе супроць польскага фа-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

шызму, організуе масы для канчатковай перамогі.

У дзень сьвяткаваньня XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі, сьвята пролетарскай міжнароднай рэволюцыі, наша шчырае прывітаньне рабочым і сялянам Заходняй Беларусі і іх сапраўднаму героічнаму правадыру КПП і КПЗБ.

### XI. Перамаганьне цяжкасьцяй і клясавая барацьба. Задачы пабудовы соцыялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы

Вялізарнейшыя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР і БССР атрыманы рабочай клясай у выніку барацьбы за падоленьне цяжкасьцяй.

«Нашы цяжкасьці зьяўляюцца цяжкасьцямі рэконструкцыйнага пэрыоду, і карэнным чынам розьняцца ад цяжкасьцяй аднаўленчага пэрыоду. Рэконструкцыйны пэрыод у народнай гаспадарцы азначае зьмяненьне тэхнічнай базы, узброеньне сучаснай тэхнікай, перабудову соцыяльна-тэхнічнай базы народнай гаспадаркі. Рэконструкцыя народнай гаспадаркі неабмя-

жоўваецца ў нас перабудовай яе тэхнічнай базы, а патрабуе разам з тым і перабудовы соцыяльна-экономічных адносін» (Сталін).

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Калі ў прамысловасьці тэхнічная рэконструкцыя мае ў асноўным гатовую соцыяльна-экономічную базу, то ў сельскай гаспадарцы рэконструкцыя тэхнічнай базы зьвязана з перабудовай соцыяльна-экономічнага ўкладу, шляхам аб'яднаньня дробных гаспадарак у буйныя колектывізаваныя гаспадаркі з адначасовай выкарчоўкай карэньняў капіталізму ў сельскай гаспадарцы.

Разгорнуты соцыялістычны наступ на капіталістычныя элемэнты ня мог ня выклікаць шалёнага супраціўленьня з боку гэтых элемэнтаў. Гэта супраціўленьне аджываючых кляс выразілася ў розных формах: у шкодніцтве верхавінкі буржуазнай інтэлігенцыі; у зьверскай барацьбе кулацтва, ліквідуемага на базе суцэльнай колектывізацыі, супроць колектыўных форм гаспадаркі; у саботажы мерапрыемстваў савецкай улады з боку бюрократычных элемэнтаў і т. д.

Гэтае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў унутры нашай краіны падтрымліваецца з боку капіталістычнага акружэньня. Рабочая кляса пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, організаваўшы наступ на капіталістычныя элемэнты, вядучы рашучую барацьбу на два франты з опортуністычнымі элемэнтамі ва ўласных радох і ізоляваўшы іх, — дабілася рашаючых посьпехаў. **Падаўляючы супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў, рабочая кляса расчышчае шлях больш хуткага прасоўваньня наперад.**

Ажыцьцяўленьне бальшавіцкіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і ліквідацыя паразытычных кляс дазваляе ўжо ў першую пяцігодку ліквідаваць асноўную крыніцу эксплёатацыі чалавека чалавекам, забясьпечвае недасягаемымі для капіталістычных краін тэмпамі рост народнага даходу, зьнішчае бяспрытульле, галечу і супярэчнасьці паміж горадам і вёскай, забясьпечвае рост дабрабыту і культурнага ўзроўню рабочых і сялян.

XVII партыйная конфэрэнцыя, абгаварыўшы вынікі соцыялістыч-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

нага будаўніцтва ў СССР, намеціла дырэктывы для складаньня другога пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі Савецкага саюзу. Яна адзначыла, што посьпехі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва дасягнуты ў выніку вялізарнага росту рэволюцыйнай актыўнасьці найшырэйшых мас рабочай клясы і працоўных сялян, дасягнуты ў выніку вялізарнага ўздыму соцспаборніцтва і ўдарніцтва, у выніку ленінскай політыкі нашай партыі, у выніку пасьлядоўнага, разгорнутага па ўсім фронце, наступу на капіталістычныя элемэнты.

Разам з тым «конфэрэнцыя лічыць, што асноўнай політычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю, падоленьне пережыткаў капіталізму ў экономіцы і сазнаньні людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага, соцыялістычнага грамадзтва».

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Гэтае гістарычнае рашэньне XVII партыйнай конфэрэнцыі ЎсеКП(б) паказвае шлях для далейшага прасоўваньня пролетарыяту СССР да соцыялізму.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

### XII. Задачы, пастаўленыя Верасьнёўскім пленумам ЦК УсеКП(б)

Верасьнёўскі пленум Цэнтральнага комітэту УсеКП(б) намеціў асноўныя задачы, якія стаяць у сучасны момант перад краінай. Гэтымі задачамі зьяўляецца: разгортваньне савецкага гандлю, палепшаньне справы снабжэньня рабочай клясы, большы выпуск тавараў шырспажыву і забесьпячэньне выкананьня плянаў мэталюргіі.

Рашаючым зьвяном работы зьяўляецца ўменьне па-бальшавіцку, конкрэтна кіраваць, мобілізоўваць масы, разьмяркоўваць свае рэсурсы, расстаўляць сілы, падбіраць людзей, організоўваць праверку выкананьня, падрыхтоўваць кадры, аўладаць тэхнікай.

Разгортваньне колгаснага гандлю, значнае павялічэньне вырабу прадметаў шырокага спажываньня ўмацоўвае саюз рабочай клясы з

сялянствам і забясьпечвае далейшае палепшаньне справы рабочага снабжэньня. Разьвіцьцё гандлю ў барацьбе супроць спэкулянтаў і перакупшчыкаў—вось задача нашых організацый і ўсіх працоўных.

У мэтах палепшаньня снабжэньня рабочых і працоўных павінна быць узмоцнена вытворчасьць прадметаў шырокага спажываньня. Цэнтральны комітэт у сваіх рашэньнях даў ясныя і чоткія дырэктывы Наркоматам лёгкай і цяжкай індустрый, а таксама прамкоопэрацыі аб павялічэньні вытворчасьці прадметаў шырспажыву. Неабходна памятаць словы т. Сталіна, сказаныя на XVI партыйным зьезьдзе: **«Новае ў разьвіцьці нашай прамысловасьці між іншым у тым, што мы маем цяпер магчымасьць разьвіваць паскоранымі тэмпамі і цяжкую і лёгкую прамысловасьць».**

Неабходна ў найкарацейшы тэрмін наладзіць работу на прадпрыемствах Наркоматаў лёгкай і цяжкай індустрый, а таксама прамысловай коопэрацыі, якая выпускае прадметы шырспажыву.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Пленум Цэнтральнага комітэту абмеркаваў пытаньні работы мэталюргіі, рашаючай галіны цяжкай прамысловасьці. Посьпехі мэталюргіі ў бягучым годзе бясспрэчны (рост выпрацоўкі чыгуну на 28 проц., сталі—на 8 проц., пракату—на 9 проц., у параўнаньні з мінулым годам). Аднак мэталюргія ня выканала пляну і замест 23 тыс. т чыгуну штодзенна дае 17—18 тыс. т. Гэтае адставаньне росту мэталюргіі тармозіць работу ўсёй прамысловасьці. Неабходна рашучым чынам зьнішчыць недахопы ў рабоце мэталюргіі, на аснове поўнага выкананьня шасьці гістарычных умоў т. Сталіна.

Рашэньнямі Цэнтральнага комітэту партыі і СНК СССР завострана ўвага на двух рашаючых пытаньнях, якія зьяўляюцца асноўнымі ў справе далейшага палепшаньня становішча рабочай клясы. Гэтымі пытаньнямі зьяўляюцца: верасьнёўскае рашэньне аб мясазагатоўках і рашэньне аб падвышэньні ўраджайнасьці. Улічваючы значны рост пасеўных плошчаў на працягу раду апошніх гадоў, ЦК

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**і СНК ставяць асноўнай задачай падвышэньне ўраджайнасьці.**

Рашэньне аб мясазагатоўках дае зьніжэньне пляну загатовак у колгасным і аднаасобным сэктарох, падвышаючы разам з тым плян для жывёлагадоўчых саўгасаў. Гэтым рашэньнем устаноўлен 15-месячны плян загатовак з вызначэньнем пастаўкі дзяржаве жывёлы (маючы моц падатку) для кожнага аднаасобніка, колгаснай гаспадаркі, а таксама колгасных таварных фэрм.

Новы закон аб мясазагатоўках накірован, з аднаго боку, на палегчаньне выкананьня пляну па мясазагатоўках і палепшаньня рабочага снабжэньня, а з другога боку— на стымуляваньне разьвіцьця жывёлагадоўлі ў сельскай гаспадарцы, і дае, бясспрэчна, паскарэньне вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы.

Сьвяткуючы XV гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі і падыходзячы да завяршэньня апошняга году пяцігодкі, працоўныя БССР павінны пад агнём жорсткай самакрытыкі праверыць, як выконваюцца важнейшыя гаспадарча-полі-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

тычныя задачы: выкананьне прамфінпляну, асабліва па якасных паказчыках, барацьба за хлебазагатоўкі і адгрузку бульбы пролетарскім цэнтрам, барацьба за лён, шырспажыў і колгасны гандаль.

Чоткае і безагаворачнае выкананьне рашэньняў Пленуму пры адначасовай барацьбе з опортуністамі на два франты зьяўляецца парукай перамогі цяжкасьцяй росту і далейшага палепшаньня становішча найшырэйшых рабочых мас.



### XIII. Узмацненьне Чырвонай арміі—узмацненьне абараноздольнасьці СССР і забесьпячэньне мірнага соцыялістычнага будаўніцтва супроць узрастаючай небясьпекі—вайны, якую падрыхтоўваюць капіталісты

Гістарычнае спаборніцтва дзьвюх сыстэм—капіталістычнай і соцыялістычнай—вырашаецца на практыцы ў карысьць соцыялізму, які ўжо даказаў сваю перавагу перад капіталізмам.

Рабочая кляса Савецкага саюзу, занятая мірным будаўніцтвам, намячае ў другой пяцігодцы грандыёзныя задачы пабудовы соцыялі-

стычнага грамадзтва. Рабочая кляса Савецкага саюзу пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі пасьлядоўна праводзіць політыку міру, якая павінна забясьпечыць магчымасьці мірнага соцыялістычнага будаўніцтва. Аднак узмацненьне экономічнага крызісу ў капіталістычных краінах і шуканьне выхаду з гэтага крызісу з боку паасобных груп кіруючай буржуазіі—у вайне супроць Савецкага саюзу, прымушае рабочую клясу ўзмацніць сваю пільнасьць у адносінах забесьпячэньня мірнай працы.

У XV гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі асаблівая ўвага павінна быць прыкована да ўзмацненьня абароназдольнасьці геройскай Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі. Перамога ў грамадзянскай вайне была забясьпечана дзякуючы Чырвонай арміі, створанай рабочай клясай. Мірнае будаўніцтва забясьпечваецца Чырвонай арміяй, якая ахоўвае граніцы Савецкага саюзу. Далейшае мірнае будаўніцтва, выкананьне грандыёзных задач, якія ставіцца ў другую пяцігодку, у пяцігодку пабудовы соцыялістычнага грамадзтва, цясьнейшым чы-

нам зьвязана з узмацненьнем абароназдольнасьці Савецкага саюзу. Абароназдольнасьць краіны павінна быць узьнята на больш высокую ступень. Неабходна памятаць, што магутнасьць Чырвонай арміі знаходзіцца і будзе знаходзіцца ў самай шчыльнай залежнасьці ад становішча народнай гаспадаркі нашай краіны. Маючы перад сабой ворага, які ўзброен па апошнім слове тэхнікі і апіраецца на моцнае разьвіцьцё ваеннай прамысловасьці, Чырвоная армія павінна, у сваю чаргу, мець высокую матэрыяльна-тэхнічную базу. Выкананьне плянаў прамысловых прадпрыемстваў ёсьць адна з асноў узмацненьня магутнасьці Чырвонай арміі. Няўхільна ажыцьцяўляючы ў далейшым палітыку міру, ня гледзячы на рад провокацыйных актаў і авантурыстычных наскокаў на працягу апошняга часу, Савецкі саюз павінен быць гатовым да рашучага адпору—«Ні аднэй пядзі чужой зямлі ня хочам. Але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому» (Сталін).

**XIV. Партыя | асноўная, кіруючая сіла ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту**

**Посьпехі, з якімі мы падыходзім да XV гадавіны, тлумачацца правільным ленінскім кіраўніцтвам комуністычнай партыі, бо яна зьяўляецца асноўнай кіруючай сілай у сыстэме дыктатуры пролетарыяту.**

Пад ленінскім кіраўніцтвам партыі рабочая кляса ажыцьцяўляе політыку індустрыялізацыі, што прывяло да ўтварэньня ўласнай базы для завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

Пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы, дзякуючы канчатковаму павароту бядняцка-серадняцкіх мас вёскі на соцыялістычныя рэльсы, занялі соцыялістычныя формы. СССР ператварыўся з краіны дробнага земляробства ў краіну самага буйнага земляробства, якое скарыстоўвае дасягненьні машыннай тэхнікі.

Важнейшымі вынікамі соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца падрыў капіталістычных элемэнтаў у вёсцы, ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.



ДЛЯ ЗА

Пераможнае социялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты выклікала жорсткае супраціўленьне з боку клясавага ворага. Гэта супраціўленьне варожых клясавых сіл социялістычнаму наступленьню знаходзіла адлюстраваньне сярод нязначнай жмені найбольш няўстойлівых элемэнтаў у радох нашай партыі, якія паддаваліся ўплыву ворага.

Партыя ажыцьцяўляе рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, вядучы жорсткую барацьбу супроць опортуністычных элемэнтаў у сваіх радох, супроць правага ўхілу як галоўнай небясьпекі, супроць «левакоў», контррэволюцыйных трацкістаў і прымірэнцаў да іх.

Праводзячы правільную ленінскую лінію, партыя разграміла трацкісцкую опозыцыю. Цяпер трацкісцкая група зьяўляецца антысавецкай і антыпролетарскай групай. Партыя выкрыла трацкісцкую тэорыю аб немагчымасьці пабудовы социялізму ў аднэй краіне, аб адмаўленьні ад уцягненьня асноўных мас сялянства ў социялістычнае будаўніцтва.

На выкрыцьцё варожых тэорый, правых і трацкістаў рабочая кляса адказала вялізарнейшай падтрымкай генэральнай лініі партыі, уздымам спаборніцтва.

Організацыйная тэорыя трацкізму была накіравана супроць жалезнай дысцыпліны ў партыі, на прызнаньне свабоды фракцыйных груповак.

«Адсюль вывад: каб забясьпечыць жалезнае адзінства партыі і пролетарскую дысцыпліну ў ёй, трэба было ў першую чаргу пахаваць організацыйную тэорыю трацкізму» (Сталін).

Трацкізм як опозыцыйная плынь у партыі адлюстроўваў погляды дробнай буржуазіі, яе двоістае становішча (або «адразу» соцыялізм, або поўнае капітулянцтва перад буржуазіяй).

«Чаму правы ўхіл зьяўляецца галоўнай небясьпекай ў партыі? Таму, што ён адлюстроўвае кулацкую небясьпеку, а кулацкая небясьпека зьяўляецца ў даны момант, у момант разгорнутага наступленьня і выкарчоўкі карэньняў капіталізму асноўнай небясьпекай у краіне» (Сталін).

ДЛЯ ЗАЎВАГ

На справе правыя адмаўляюцца ад магчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашай краіне, ад магчымасьці ўцягненьня асноўных мас сялянства ў справу пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

Асноўнае зло правага опортунізму заключаецца ў тым, што ён парывае з ленінскім разуменьнем клясавай барацьбы.

«Перамога правага ўхілу ў нашай партыі азначала-б поўнае раззбраеньне рабочай клясы, узбраеньне капіталістычных элемэнтаў на вёсцы і нарастаньне шансаў на рэстаўрацыю капіталізму ў СССР» (Сталін).

Вось чаму партыя вяла жорсткую барацьбу з правымі ўхілістамі. Без перамогі над правым опортунізмам немагчыма была мобілізацыя ўсіх сіл партыі і пролетарыяту на пераможнае соцыялістычнае наступленьне.

У рашучай барацьбе з ухіламі, асабліва з правым як галоўнай небясьпекай і з прымірэнцтвам да іх,—партыя на чале з яе ленінскім ЦК дабілася выключных посьпехаў на фронце соцыялістыч-

нага будаўніцтва да XV гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Разам з усёй УсеКП(б) гэту барацьбу супроць ухілаў ад ленінскай лініі пасьпяхова праводзіла і КП(б)Б — атрад УсеКП(б) на крайнім Захадзе Савецкага саюзу.

Ня гледзячы на шалёнае супраціўленьне клясавага ворага, на змову контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, які імкнуўся сарваць соцыялістычнае будаўніцтва; ня гледзячы на простае шкодніцтва, якое мела месца ў радзе галін народнай гаспадаркі,— рабочая кляса БССР, дзякуючы правільнаму ленінскаму кіраўніцтву КП(б)Б, вышла пераможцай на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэтыя перамогі дасягнуты ў выніку рашучай барацьбы КП(б)Б з ухілістамі, у выніку правільнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі, у выніку барацьбы супроць вялікадзяржаўнага, беларускага, польскага, яўрэйскага і інш. шовінізмаў у сваіх радох, за чыстату ленінскай лініі.

Да XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі комуністычная партыя

ДЛЯ ЗАЎВАГ

падыходзіць моцнай, адзінай, шматмільённай партыяй, аб'яднанай вакол свайго ленінскага ЦК і яго правадыра—т. Сталіна—выпрабаванага кіраўніка, апіраючыся на безагаворачную падтрымку з боку рабочай клясы Савецкага саюзу.

«15 год назад, калі капітулянты (Зіноўеў, Каменеў і інш. — **Рэд.**) прарочылі гібель пролетарскай рэволюцыі, наша партыя павяла сьмела ў бой рабочых, сялян і салдат. Чвэрць мільёна было нас, комуністаў, 15 год таму назад. Трохмільённай арміяй, якая апіраецца на вялізарныя рэзэрвы комуністычнай моладзі, на дзесяткі мільёнаў організаваных рабочых і колгасьнікаў, на мацнейшую базу пролетарскай рэволюцыі—на соцыялістычную гаспадарку Краіны саветаў, намножыўшы багацейшы вопыт барацьбы за соцыялізм, сустракае XV гадавіну Кастрычніка наша партыя.

Ачышчаючы сябе напярэдадні гэтай гадавіны ад некалькіх дзесяткаў двурушнікаў, якія сталі на контррэволюцыйны шлях, партыя ўступіла ў новую пяцігодку соцыя-

лістычнага будаўніцтва, яшчэ больш упэўненая ў тым, што яна робіць вялізарнейшую справу пролетараў і працоўных усяго сьвету і што яна давядзе пачатую барацьбу за комунізм да канца» (з артыкулу «Праўды»).



### XV. Крызіс у капіталістычных краінах, нарастаньне рэволюцыйнага ўздыму і задачы комуністычных пертый

З вялізарнейшымі дасягненьнямі падыходзяць рэспублікі Савецкага саюзу да XV гадавіны кастрычніка. Перавага савецкай сыстэмы гаспадаркі — пляnаваньне—зьяўляецца асноўнай прычынай, забясьпечыўшай бурны, бязупынны рост народнай гаспадаркі, соцыялістычнага будаўніцтва, уздым матэрыяльнага становішча і культурнага ўзроўню працоўных, павышэньне заработнай платы, ліквідацыі беспрацоўя, нячуваны ўздым працоўнага энтузіязму, згуртаваньне шматмільённых мас рабочай клясы вакол комуністычнай партыі.

Іншае становішча—у капіталістычных краінах. Жорсткі, усё ўзрастаючы экономічны крызіс патрасае капіталістычны сьвет. Ня-

здольнасьць капіталістычнай сыстэмы, заснаванай на ўладзе буржуазіі, на концэнтрацыі сродкаў вытворчасьці ў руках эксплёататараў, на падпарадкаваньні вытворчасьці мэтам капіталістычных прыбыткаў у інтарэсах эксплёататараў, на грабежніцтве мільённых мас працоўных і эксплёатацыі рабочай клясы,—пацьвярджаецца на практыцы, і капіталістычная сыстэма сама сабе выносіць сьмертны прысуд.

Фізычны аб'ём продукцыі капіталістычнага сьвету (галоўных дзяржаў) скарачаецца на працягу апошніх год.

Калі ўзяць за 100 узровень выпуску продукцыі ў 1928 г., дык 1930 г. дае 90,8 проц., 1931 г.— 77,3 проц., а 1932 г., даючы бязупыннае зьніжэньне з месяца ў месяц, у чэрвені даходзіць да 61 проц.

У ПАЗШ выпуск продукцыі супроць сярэдня-месячнай 1928 г. складае ў чэрвені 1932 г. 53,2 проц., у Германіі—56,7 проц., у Францыі—73,2 проц.

Здабыча каменнага вугалю па 16 буйнейшых капіталістычных краі-

нах з 102 599 тыс. **т** у 1929 г. (сярэдня-месячная) упала ў чэрвені 1932 г. да 59 989 тыс. **т** больш як на 40 проц.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Здабыча нафты (ПАЗШ, Вэнэцуэла, Румынія, Мэксыка, Калумбія, Польшча) зьнізілася з 14 867 тыс. **т** у 1929 г. (сярэдня-месячная) да 10 024 тыс **т** у чэрвені 1932 г.

Продукцыя чыгуну капіталістычнага сьвету ў чэрвені 1932 г. зьнізілася з 7 509 тыс. **т** у 1929 г. (сярэдня-месячная) да 2 462 тыс. **т** больш чым у тры разы.

Продукцыя сталі капіталістычных краін скарацілася ў чэрвені 1932 г. супроць мая 1929 г. на 65 проц., а ў прыватнасьці ў ПАЗШ—на 85,1 проц.

Процант дзейнічаючых домнаў у адносінах да існуючых у чэрвені 1932 г. ў паасобных краінах складае:

| | | |
|---|---|---|
| а) ПАЗШ | . . . | 15,5 проц |
| б) Англія | . . . | 19,9 „ |
| в) Германія | . . . | 24,5 „ |
| г) Францыя | . . . | 38,0 „ |

Вытворчасьць аўтомобіляў супроць вышэйшага пункту перад

крызісам **скарацілася** ў чэрвені 1932 г.:

| | |
|---|---|
| У ПАЗШ на . . . | 70,6 проц. |
| У Германіі на . . | 63,9 проц. |

Будаўніцтва ў ПАЗШ скарацілася ў ліпені 1932 г. супроць вышэйшага пункту перад крызісам (май 1928 г.) на 80,7 проц., у тым ліку жыльлёвае—на 92,1 проц.

Продукцыя тэкстыльнай прамысловасьці ў ПАЗШ у ліпені 1932 г., супроць вышэйшага пункту перад крызісам, скарацілася на 43,8 проц., у Германіі—на 36,0 проц., у Францыі—на 45,1 проц.

Колькасьць беспрацоўных у капіталістычных краінах налічваецца дзесяткамі мільёнаў чалавек. Паводле афіцыйных даных «застрахаваных» беспрацоўных ў Англіі ў ліпені 1932 г. налічвалася 2 821 тыс. чал., «зарэгістраваных» у Германіі—5 476 тыс. чал. Занятасьць рабочых у ПАЗШ супроць верасьня 1929 г. у ліпені 1932 г. зьменшылася на 45,7 проц.

Банкруцтвы ў чэрвені 1932 г. складалі:

| | | |
|---|---|---|
| У ПАЗШ . . | 2489 | выпадкаў |
| У Англіі . . . | 375 | „ |
| У Германіі . . | 704 | „ |
| У Францыі . . | 1375 | „ |

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Экономічны крызіс ахапіў і сельскую гаспадарку. Збор пшаніцы ў 1932 г. ў экспортуючых капіталістычных краінах супроць 1931 г. складае 94,2 проц.

Цэны на с.-г. продукты ПАЗШ з красавіка 1929 г. па красавік 1932 г. упалі амаль у 2,4 разы і значна ніжэй даваеннага часу (59 проц.).

На рынках і фэрмах знаходзяцца вялізарныя запасы с.-г. продуктаў, якія ня маюць збыту. Даходы фэрмэраў (галоўным чынам бядняцка-серадняцкіх) рэзка зьнізіліся.

У 1929 г. сума даходаў ад сельскай гаспадаркі складала 19 млрд., а ў 1931 г.—6,9 млрд.

У штаце Місысыпі ў пачатку красавіка ў адзін дзень было прадана з малатка каля 60 тыс. гаспадарак фэрмэраў за даўгі. Землі фэрмэраў, у выніку галечы, масамі пераходзяць у рукі банкаў і крэдытораў. Банкаўскі крэдыт, дзякуючы абесцаненьню маемасьці фэрмэраў, для фэрмэраў закрыт.

У шмат якіх мясцовасьцях наглядаецца зварот да натуральнай гаспадаркі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Вось вынікі капіталістычнай гаспадаркі, вынікі панаваньня буржуазіі. Крызіс патрасае ўстоі капіталістычнага сьвету.

«Аснова крызісу ляжыць у супярэчнасьці паміж грамадзкім характарам вытворчасьці і капіталістычнай формай прысваеньня вынікаў вытворчасьці» (Сталін).

Характэрнымі рысамі сучаснага крызісу капіталізму зьяўляецца тое, што крызіс ахапіў амаль усе галіны гаспадаркі капіталістычных краін, што ён зьяўляецца крызісам манаполістычнага капіталізму, што сучасны крызіс разгортваецца на базе агульнага крызісу капіталізму, нарэшце, што ён ахапіў перадавыя капіталістычныя краіны, асабліва ўдарыўшы па ПАЗШ.

Сусьветны экономічны крызіс ускрыў з усёй яскравасьцю супярэчнасьці, уласьцівыя капіталізму.

Абвастраюцца супярэчнасьці паміж важнейшымі капіталістычнымі краінамі ў барацьбе за рынкі збыту, за сыравіну, за вываз капіталу.

Об'ектамі барацьбы зьяўляюцца Кітай (захоп Манчжурыі Японіяй),

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Паўднёвая Амэрыка, колёніі, домініёны.

Абвастраюцца супярэчнасьці, паміж краінамі пераможцамі і пераможанымі. (Германія і Францыя, патрабаваньні роўнасьці ва ўзбраеньнях з боку Германіі і супрацiўленьня Францыі; рэпарацыі і інш.).

Растуць супярэчнасьці паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі, колёніяльнымі і паўколёніяльнымі краінамі і мэтрополіямі (Імпэрская конфэрэнцыя ў Атаве—супярэчнасьці паміж Англіяй і домініёнамі; фактычны падзел Кітаю і інш.).

Нарэшце, з асаблівай вастратой растуць супярэчнасьці паміж буржуазіяй і пролетарыятам, аб чым сьведчаць імкненьні буржуазіі перакласьці ўвесь цяжар крызісу на плечы рабочай клясы, шляхам узмацненьня эксплёатацыі, шляхам далейшага грабежніцтва шырокіх працоўных мас, і рашучае супраціўленьне рабочай клясы наступленьню капіталістаў у радзе асноўных краін капіталістычнага сьвету. Растуць стачкі, забастоўкі, рэволюцыйны рух значна пашыраецца і прымае востры характар, рабочая

кляса вызваляецца з-пад уплыву соцыял-згоднікаў.

Правільнасьць ацэнкі, данай становішчу капіталізму ў рашэньнях ВККІ, прогноз становішча капіталізму ў дакладзе т. Сталіна на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б), праверана гістарычным ходам падзей.

Правадыры буржуазіі, няздольныя вывесьці капіталістычны сьвет з глыбокага крызісу, нэрвова шукаюць выхаду ў вайне. Дзяржавы ўзбройваюцца вялізарнымі тэмпамі, падрыхтоўваючы новую сусьветную вайну. На фоне развалу гаспадаркі расьце адзіная галіна прамысловасьці — ваенная прамысловасьць. У пошуках выхаду з усё больш вострых супярэчнасьцяй буржуазія накіроўвае сваю ўвагу ў бок СССР, спадзяючыся вырашыць супярэчнасьці за кошт СССР.

Мільённыя масы працоўных знаходзяцца ў капіталістычных краінах ва ўмовах галечы, жабрацтва. Паскараецца расслаеньне, кансалідацыя сіл на двух полюсах. Соцыял-згодніцкія партыі II Інтэрнацыяналу зьяўляюцца перадавым атрадам буржуазіі, які скарыстоў-

ваецца апошняй у сваіх мэтах. З нязгодлівымі лёкаямі з II Інтэрнацыяналу буржуазія распраўляецца як поўны гаспадар.

Фашызм скарыстоўваецца буржуазіяй на найбольш небясьпечных вучастках супроць рабочай клясы як зброя буржуазіі. Разам з тым усё больш зрастаюцца з фашызмам і соцыял-згодніцкія партыі. Экономічны крызіс наносіць удар за ўдарам соцыял-дэмократычным ілюзіям сярод рабочых.

Адыход рабочых ад соцыялдэмократыі азначае паварот іх у бок комунізму.

Прыкладам гэтага зьяўляюцца: апошнія выбары ў германскі рэйхстаг—значны рост галасоў, паданых за комуністаў, выбары ў софійскі муніцыпалітэт, выбары ў парлямант у Грэцыі, узмацненьне ролі комуністаў у профсаюзным руху, кіруючая роля комуністаў у забастоўках, дэмонстрацыях; пасьпяховае правядзеньне антываеннага конгрэсу пад уплывам комуністаў і т. д. 80 млн. кітайскіх працоўных організаваны пад кіраўніцтвам кітайскай компартыі на вя-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

лікай тэрыторыі ў савецкіх раёнах Кітаю.

Рабочыя масы бачаць, у комуністычнай партыі адзіную партыю, здольную змагацца з капіталізмам, партыю, якой можна даверыць, пад сьцягам якой трэба змагацца за вызваленьне ад капіталізму.

Гэтыя абставіны накладаюць вялізарную адказнасьць на брацкія комуністычныя партыі ў капіталістычных краінах. Комуністычным партыям неабходна правільна ацаніць становішча і скарыстаць яго належным чынам у адпаведнасьці з пастановамі Верасьнёўскага пленуму ВККІ.

Вядучы рашучую барацьбу супроць соцыял-згоднікаў, выкрываючы іх перад тварам шырокіх рабочых мас як агентуру капіталізму ў рабочай клясе, няўхільна праводзячы правільную ленінскую лінію ў жорсткай барацьбе з ухіламі ад яе,—комуністычныя партыі здолеюць пасьпяхова заваяваць большасьць рабочай клясы і павесьці пад сьцягам Комінтэрну пролетарыят да рашаючых клясавых баёў.

Капіталістычны крызіс бязупынна паглыбляецца. Уздым рэвалюцыйнага руху рабочых мас ідзе з нарастаючай сілай. Сусьветны эканомічны крызіс перарастае ў радзе краін у крызіс палітычны.

Пралетарыят пад кіраўніцтвам комуністычных партый рашуча шукае выхаду ў барацьбе з капіталізмам у рэволюцыі, у скарыстаньні вопыту сваёй перадавой ударнай брыгады, узьняўшы сьцяг вялікага Кастрычніка, сьцяг сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

---

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Табліца № 4

**Парадкавае месца СССР у сусьветнай гаспадарцы**

| | 1928 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|
| Электраэнэргія | 8 | 7 | 3 |
| Нафта | 3 | 2 | 2 |
| Каменны вугаль | 6 | 4 | 4 |
| Чыгун | 6 | 3 | 2 |
| Медзь | 9 | 9 | 4—5 |
| Электратэхнічная прамысловасьць | 7 | 3—4 | 3 |
| Агульнае машынабудаўніцтва | 4 | 2—3 | 2 |
| Серная кіслата | 8 | 6 | 3 |
| Папера | 9 | 6 | 5 |
| Народны даход | 4 | 2 | 2 |

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

Табліца 5.

**Продукцыя вугалю, чыгуну, сталі і здабычы нафты ў СССР і Польшчы за 10 год (у проц. да 1914 г.)**

| Гады | Продукцыя вугалю | | Продукцыя чыгуну | | Продукцыя сталі | | Здабыча нафты | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | СССР | Польшча | СССР | Польшча | СССР | Польшча | СССР | Польшча |
| 1913 . . | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| 1922 . . | 31,3 | 83,9 | 4,5 | 45,5 | — | 62,3 | 52,8 | 64,0 |
| 1923 . . | 37,3 | 88,1 | 7,3 | 48,9 | — | 70,4 | 60,9 | 66,2 |
| 1924 . . | 56,1 | 78,8 | 16,6 | 31,8 | 33,5 | 42,2 | 69,8 | 68,4 |
| 1925 . . | 58,6 | 71,0 | 31,5 | 29,6 | 53.2 | 48,2 | 80,5 | 72,8 |
| 1926 . . | 90.1 | 87,2 | 53,9 | 30,7 | 73,9 | 48.9 | 94,9 | 71,4 |
| 1927 . . | 111,9 | 93,0 | 72,5 | 59,1 | 90,0 | 77,1 | 117,8 | 64,8 |
| 1928 . . | 123,9 | 99,1 | 80,2 | 64,8 | 101,3 | 88,2 | 132,4 | 66,6 |
| 1929 . . | 144,2 | 112,8 | 103,3 | 67,1 | 116,1 | 85,2 | 155,7 | 60,5 |
| 1930 . . | 162,8 | 91,6 | 118,9 | 45,5 | 138,1 | 76,3 | 200,2 | 59,4 |
| 1931 . . | 185,3 | 98,4 | 115,4 | 33.0 | 128,9 | 63,7 | 246,7 | 56,6 |

Увага. За 1931 г. даныя папярэднія.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Табліца № 6

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**Дынаміка колькасьці рабочых у цэнзавай прамысловасьці БССР**

| Гады | на I|I |
|---|---|
| 1926 . . . . . . . . | 24 264 |
| 1927 . . . . . . . . | 27 586 |
| 1928 . . . . . . . . | 29 543 |
| 1929 . . . . . . . . | 34 774 |
| 1930 . . . . . . . . | 45 544 |
| 1931 . . . . . . . . | 75 438 |
| 1932 . . . . . . . . | 94 057 |

**Групоўка прадпрыемстваў БССР па колькасьці рабочых на 1-I 1928 г. і на 1-I 1932 г,**

Табліца № 7

| Групоўка прадпрыемстваў па колькасьці рабочых | У процантах да агульнай колькасьці рабочых па ўсёй цэнзавай прамысл. | |
|---|---|---|
| | На 1-I 1928 г. | На 1-I 1932 г. |
| Па ўсёй цэнзавай прамысловасьці . | 100,0 | 100,0 |
| Да 100 раб. . . . . . | 13,9 | 6,0 |
| Ад 101 да 500 . . . . | 43,5 | 23,1 |
| „ 501 „ 1000 . . . . | 19,9 | 18,6 |
| „ 1001 „ 3000 . . . . | 22,7 | 43,1 |
| Звыш 3000 . . . . . | — | 9,2 |

**Увага.** Гэтая табліца характарызуе процэс концэнтрацыі прамысловасьці па колькасьці рабочых. Характэрным за час з 1928 г. па 1932 г. зьяўляецца памяншэньне ў два разы дробных прадпрыемстваў, з агульнай колькасьцю рабочых да 100, павялічэньне амаль у два разы колькасьці рабочых, сконцэнтраваных у буйных прадпрыемствах, з лікам рабочых звыш тысячы да трох тысяч і ўзьнікненьнем новых буйных прадпрыемстваў з рабочымі колектывамі звыш трох тысяч рабочых.

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

*Стар.*

VIII. Выкананьне і перавыкананьне пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва БССР у 4 гады. Вялізарны ўздым працоўнага энтузіязму. Соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва . . . . . . 40

IX. Ленінскае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б . . 44

X. Становішча Заходняй Беларусі . . . . 49

XI. Перамаганьне цяжкасьцяй і клясавая барацьба. Задачы пабудовы соцыялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы . . . . 51

XII. Задачы, пастаўленыя Верасьнёўскім пленумам ЦК УсеКП(б) . . . . . . 55

XIII. Узмацненьне Чырвонай арміі—узмацненьне абароназдольнасьці СССР і забясьпечаньне мірнага соцыялістычнага будаўніцтва супроць узрастаючай небясьпекі—вайны, якую падрыхтоўваюць капіталісты . . . . . 59

XIV. Партыя—асноўная кіруючая сіла ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту . . . . . 62

XV. Крызіс у капіталістычных краінах, нарастаньне рэволюцыйнага ўздыму і задачы комуністычных партый . . . . . 68

Дадаткі

Табліца № 4—Парадкавае месца СССР у сусьветнай гаспадарцы . . . . . . . 79

Табліца № 5—Продукцыя вугалю, чыгуну, сталі і здабычы нафты ў СССР і Польшы за 10 год 80

Табліца № 6—Дынаміка колькасьці рабочых ў цэнзавай прамысловасьці БССР . . . . 81

Табліца № 7—Групоўка прадпрыемстваў БССР па колькасьці рабочых . . . . . . 89

Заказ № 2590. 15.000 экз. (2½ арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 1123.

Друкарня імя Сталіна

